Падпісацца на «Народную Волю» можна ў любы дзень
у любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваных пунктах «Белсаюздруку».

*На простор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 78 (4330)**

2 кастрычніка 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**БЛІЦ-ПРАГНОЗ**

*Пасля апошніх сустрэч Аляксандра Лукашэнкі з Уладзімірам Пуціным актыўна абмяркоўваецца тэма магчымага размяшчэння ў Беларусі расійскай ваеннай базы.
"Народная Воля" вырашыла высветліць, што думаюць на гэты конт яе чытачы.
Пытанне мы сфармулявалі так:*

## Будзе ў Беларусі ваенная база Расіі ці не?

**Юрый БЕЛЯКОЎ, юрыст прафсаюза РЭП:**

– На мой погляд, ёсць вялікая верагоднасць таго, што такая база з'явіцца. На 90 працэнтаў, што яна будзе, калі такую мэту паставіць перад сабой Крэмль.

У той жа час, як мне падаецца, беларускім уладам такая база абсалютна не патрэбна, бо яны цудоўна разумеюць, чым гэта пагражае. І Беларусь да гэтага часу не прызнала незалежнасць Крыма і Паўднёвай Асеціі. Адным словам, база нам не патрэбна, аднак складана будзе супрацьстаяць націску Масквы.

**Андрусь ТАКІНДАНГ, мастак і музыкант:**

– Тэарэтычна стварэнне такой базы абсалютна магчыма. Ва ўсялякім выпадку краіна ад гэтага ніякім чынам не застрахавана, і няма на 100 працэнтаў упэўненасці, што база не з'явіцца. Магчыма, гэта будзе залежаць і ад таго, ці будзе размешчана ў Польшчы ваенная база НАТА, хаця Расія і без гэтага можа паставіць Беларусі ўльтыматум.

Але тут галоўнае, каб беларусы праявілі нейкі характар. І каб тая частка грамадства, якая мова сказаць, што нам гэта не падабаецца, змагла б давесці сваю пазіцыю да ўсяго беларускага грамадства.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, паэтэса:**

– Размясціць замежную ваенную базу на сваёй тэрыторыі – гэта вар'яцкая задумка. Але Расія апошнім часам захваляваласця, што НАТА прасоўваецца на ўсход, і, не выключана, можа нанесці апераджальны ўдар.

Але, як мне падаецца, такой базы ў Беларусі ўсё-такі не будзе. Вельмі моцна трэба націснуць на беларускія ўлады, каб яны пайшлі на такі крок. Беларускаму кіраўніку гэта абсалютна не патрэбна.

**Алесь МЕХ, грамадскі актывіст з Кобрына:**

– Думаю, у Беларусі з'явіцца нават не адна ваенная база. Апошнія падзеі сведчаць пра тое, што ідзе ціхая анексія краіны. Беларускія ўлады нічога не змогуць зрабіць. Масква мае такія рычагі ўплыву, што іншага выйсця не будзе.

Каб не паўтарыўся крымскі сцэнарый, неабходна было яшчэ з 1994 года не руйнаваць палітыку нацыянальнага адраджэння краіны. Але ж увесь час праводзілася палітыка знішчэння нацыянальных каштоўнасцяў, і сёння маем тое, што маем.

**Уладзімір КАВАЛКІН, эканаміст, кіраўнік праекта «Кошт урада»:**

– Рацыянальных передумоў для размяшчэння расійскай ваеннай базы на тэрыторыі Беларусі няма. Але мы ўсе добра ведаем, што Крэмль паводзіць сябе не заўсёды рацыянальна, а таму можа адбыцца ўсё што заўгодна.

Акрамя таго, трэба разумець, што часткова нагодай для такога размяшчэння маюць паслужыць з'яўленне ў Польшчы НАТАўскай базы. Хаця сёння з пункту гледжання парытэту сіл вялікай неабходнасці размяшчэння расійскай базы ў Беларусі няма.

Ці будзе пагроза для Беларусі ад такой базы? На першы погляд, няма падстаў для хвалявання. Але ва ўкраінскім Крыме таксама была расійская ваенная база, і ўсе мы ведаем, што затым атрымалася.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ, паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР:**

– Асабіста я не разумею, навошта Беларусі мець на сваёй тэрыторыі расійскую ваенную базу. Абсалютна ўпэўнены, што яна нам не патрэбна. Прысутнасць усялякіх ваенных баз так ці інакш, але адмоўна адбіваецца на суверэнітэце краіны.

Па-другое, не бачу наогул аб'ектыўных прычын, каб у Беларусі ствараць расійскую ваенную базу. Дарэчы, калі гляджу расійскае і беларускае тэлебачанне, то звяртаю ўвагу, наколькі шмат часу там адводзіцца тэме мілітарызацыі. І гэта ў пэўным сэнсе можна разглядаць як правакацыйныя дзеянні.

**Сяргей НІКАЛЮК, палітолаг:**

– Залежнасць Беларусі ад Расіі каласальная, і з кожным годам яна ўсё павялічваецца. Перш за ўсё трэба казаць пра эканамічную залежнасць, хаця ёсць і палітычная.

Іншае пытанне: ці патрэбна зараз Расіі ствараць сабе чарговую праблему? Бо ваенная база ў Беларусі, безумоўна, падыме новую хвалю абурэння на Захадзе. Тамy я не зусім упэўнены, што такая база ў бліжэйшы час з'явіцца. Больш шанцаў, што яе ў Беларусі не будзе.

**Апытанне праводзіў Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**ФАКТ**

## Не чытаюць!

Менш за палову беларусаў з рознай перыядычнасцю чытаюць мастацкую літаратуру, астатнія зусім не дакранаюцца да кніг. З беларускіх аўтараў часцей называюць Караткевіча і Алексіевіч. Такія вынікі даследавання, праведзенага Інстытутам сацыялогіі НАН Беларусі.

**РЕГИОН**

## Выйдут ли рабочие на улицу?

*Независимый профсоюз горняков готовит пикет в защиту прав трудящихся. Акция запланирована на 12 октября. Заявка на ее проведение уже подана в Солигорский райисполком.*

Активисты НПГ намерены посредством пикета выразить протест против того, чтобы номера декретов №29 и №5 были включены в Трудовой кодекс. По их мнению, подобные изменения в ТК ухудшат правовое положение трудящихся, законодательно закрепят элементы принудительного труда.

– *Хотим через пикет донести нашу позицию как позицию избирателей до депутатов Палаты представителей Национального собрания и призвать их не голосовать за то, чтобы положения декретов №29 и №5 были внесены в Трудовой кодекс*, – сказал руководитель Независимого профсоюза горняков **Сергей Черкасов**.

Как известно, депутаты ППНС планируют во втором чтении рассмотреть данный законопроект на осенней сессии.

Еще одна тема пикета – это предложение к депутатам Палаты представителей выйти на рассмотрение вопрос об изменении пенсионного обеспечения тех пенсионеров, которые продолжают трудиться на предприятии после выхода на пенсию по льготным спискам – как работавшие во вредных условиях – раньше общеустановленного пенсионного возраста.

Как рассказали в НПГ, таким работающим пенсионерам по существующему законодательству льготная пенсия выплачивается не в полном объеме, нет перерасчета пенсии при достижении ими общеустановленного пенсионного возраста, хотя за период их работы после выхода на льготную пенсию осуществляются все перечисления в ФСЗН. Такое положение дел нельзя назвать справедливым и приемлемым, – считают в НПГ.

Лидер Независимого профсоюза горняков Сергей Черкасов сообщил, что помимо пикета этот вопрос поднимается в обращении НПГ к депутатам Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь. Под обращением уже идет сбор подписей работников ОАО «Беларуськалий». Подписаться под этим обращением, добавил руководитель НПГ, может любой гражданин.

## Государство продает пакет акций ОАО «Купалинка»

Об этом сообщается на сайте Государственного комитета по имуществу.

В концерне «Беллегпром» Солигорское трикотажное предприятие ОАО «Купалинка» – одно из крупнейших. Государство имеет в нем 84,46 процента акций. Конкурс по продаже акций ОАО «Купалинка», принадлежащих Республике Беларусь, пройдет в Минске 15 ноября. Заявки для участия в конкурсе принимают по 5-е ноября.

В конкурсе могут принять участие как резиденты, так и нерезиденты Республики Беларусь. Начальная цена продажи пакета акций – 5.636.682,88 рубля.

Победитель конкурса должен будет выполнить ряд условий государства. Среди них:

– внести в уставной фонд в течение трех лет не менее 10 миллионов рублей: 5,2 млн из них потратить на обновление основных средств, в том числе производственное оборудование, 4,8 млн – на пополнение оборотных средств;

– обеспечить экспорт продукции ОАО «Купалинка» за 2021 год в объеме не менее 3 млн долларов США;

– обеспечить рост объемов производства по итогам 2021 года к уровню 2018 года в денежном выражении не менее 20 процентов;

– создать до конца 2021 года не менее 40 дополнительных рабочих мест по рабочим специальностям.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

**ЗА ПРОХОДНОЙ**

## МАЗ начнет собирать микроавтобусы и фургоны

Минский автомобильный завод в ноябре запустит в Бресте первое серийное производство микроавтобусов и фургонов. Машины будет отличать доступная цена, а ориентированы они будут на внутренний рынок, рассказали в ОАО «МАЗ».

Сборочное производство развернется на свободных площадях ОАО «Брестмаш».

Первым уйдет в серийное производство пассажирский микроавтобус МАЗ 281, прототип которого уже прошел все необходимые испытания. Кроме того, разработан грузовой фургон МАЗ-365022 с цельнометаллическим кузовом и интегрированной в него рамой.

В будущем будет проводиться работа по локализации производства. В этом процессе будут участвовать холдинги «БЕЛАВТОМАЗ» и «Автокомпоненты», концерн «Белнефтехим» и другие. При выпуске автомобилей предпочтение будут отдавать только качественным белорусским компонентам.





**ВЯЛІКАЯ ПАЛІТЫКА**

## Француженка Анаіс Марын – спецдакладчык ААН па Беларусі

*Яна была прызначана на пасаду спецыяльнага дакладчыка ААН па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі на сесіі Савета ААН па правах чалавека.*



Анаіс Марын нарадзілася ў 1977 годзе. Яна палітолаг, які спецыялізуецца на міжнародных адносінах, у тым ліку ў сферы яе інтарэсаў посткамуністычныя пераўтварэнні ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. Свабодна валодае французскай, англійскай і рускай мовамі, разумее беларускую і ўмее чытаць па-беларуску, адзначае *БелаПАН*.

У свой час Анаіс Марын настойвала на працягненні санкцый Еўрасаюза ў дачыненні да Беларусі да таго моманту, пакуль Беларусь не выканае ўсе патрабаванні ЕС. Але пры гэтым яна лічыла, што санкцыі ў дачыненні да Беларусі не даюць належнага эфекту.

Да канца кастрычніка 2018 года на пасадзе спецдакладчыка застанецца цяперашні спецдакладчык па Беларусі **Міклаш Харасці**. На падставе даклада Харасці Савет ААН па правах чалавека 6 ліпеня прыняў рэзалюцыю аб працягненні яшчэ на год мандата спецдакладчыка ААН па Беларусі.

Беларускія ўлады не прызнаюць мандат спецыяльнага дакладчыка ААН па правах чалавека ў Беларусі.

**ЖУРНАЛИСТСКОЕ РАССЛЕДОВАНИЕ**

# Жизнь под откос

*Жители поселков Уютный, Большое Стиклево, микрорайона «Шабаны» и садового товарищества «Озерище» борются за право спать по ночам. Чрезмерный шум и вибрацию в их домах, превышающие санитарные нормы в 2–3 раза, создают товарные поезда: нежданно-негаданно они стали ходить по железнодорожной ветке Колодищи–Шабаны, которую не эксплуатировали более 50 лет.*

*Белорусская железная дорога на претензии людей отвечает коротко, и суть этих ответов такова: вам мешает – ваша проблема. Как же получилось, что в стране, где, как утверждает глава государства, «главное в политике – народ», «люди – это главное», государственное ведомство может бесцеремонно вторгнуться в жизнь своих граждан и сделать ее невыносимой?!*

*В непростой ситуации попробовала разобраться «Народная Воля».*

### «Между шпалами росли деревья, а они пишут: дорога эксплуатировалась с 1964 года»



**БелЖД: «Участок ... находится в технически исправном состоянии».**

В 2008 году **Александр Титушкин** с женой решили перебраться из шумного Минска в пригород. Изучили инфраструктуру и остановили свой выбор на уютном месте в окрестностях Колодищей. Коттеджный поселок здесь так и называется – Уютный: рядом сосновый лес, тишина, приятные соседи. Первые коттеджи тут выросли еще в далеком 1993 году, когда в Беларусь пришла мода на частное жилье и минчане стали активно перебираться из квартирных коробок в собственные дома. Сельский Совет охотно раздавал участки, естественно, небесплатно – казна зарабатывала деньги. Например, так в Уютном в 1993 году приобрел землю под застройку **Олег Мураховский**. Зеленая зона и близость к городу стали основными причинами для выделения в этом поселке в 1993 году земли реабилитационному центру Белорусского фонда помощи спортсменам-инвалидам, где после соревнований восстанавливаются наши паралимпийцы.

Семья **Жанны Корунос** в Уютном начала строиться в 2007 году. Ей в сельском Совете на вопрос о железнодорожной ветке, которая проходит неподалеку от ее участка, уверенно сказали: она недействующая, не волнуйтесь, поезда по ней ходить не будут.

– *Мы заплатили 14,5 тысячи долларов за участок*, – рассказывает женщина. – *Сейчас такой участок, как наш, продается за 45 тысяч. Хотя правильнее сказать: продавался. Если ничего не изменится, нам скоро придется просто покинуть дома. Железная дорога сделала нашу жизнь невыносимой и небезопасной. Кто компенсирует нам наши затраты?*

Участки **Александра Титушкина, Жанны Корунос, Олега Мураховского, Владимира Терещенко, Андрея Саликова** и еще около десятка других жителей Уютного, а также здание реабилитационного центра для спортсменов-инвалидов находятся рядом, в 60–150 метрах (как они сами горько шутят, «на первой линии») от железнодорожной ветки. До недавнего времени практически заброшенной. Ибо надо быть совершенно сумасшедшим, чтобы вкладывать огромные деньги в строительство дома там, где рядом громыхает «железка», проносятся многотонные товарные составы. Когда Уютный в 1990-х строился и когда в 2000-х расширялся, эта ж/д ветка не функционировала. Точно так же, как и в 1983 году, когда неподалеку от Уютного Минский тракторный завод получил землю под дачи и тут появилось садовое товарищество «Озерище». Некоторые дома садоводов просто «прилеплены» к насыпи, по которой проложены рельсы. Правда, сейчас Белорусская железная дорога пытается убедить людей, что «*участок железной дороги Колодищи–Шабаны введен в эксплуатацию в 1964 году для движения грузовых поездов задолго до выделения земельных участков под жилую застройку домов*». Однако жители Уютного, Большого Стиклево и садового товарищества «Озерище» говорят, что это неточная информация, и рассказывают, как функционировала эта ветка до января 2018 года, пока по ней не пошли большегрузные поезда.

– *В 1993 году я начал строиться одним из первых, тут еще ничего не было – пустырь. Места красивые, воздух свежий*, – вспоминает **Олег Мураховский**. – *Меня абсолютно не смутило, что рядом проходит железнодорожная ветка. Она была абсолютно бесхозная, заброшенная. Ржавые рельсы, деревянные шпалы, между которыми росла даже не трава – деревья! Зимой мы здесь на лыжах катались. В сельском Совете нам рассказывали, что это была военная рокадная дорога, она строилась еще до войны как оборонная, чтобы при необходимости по ней можно было подвозить к Минску технику, продукты. Но с развалом Советского Союза эта ж/д ветка, по сути, никому не была нужна и потихоньку приходила в негодность. Мне смешно читать, когда сейчас БелЖД пишет, что дорога эксплуатировалась с 1964 года.*

(Окончание на 2-й стр.)

**ВІЗІТ**

## Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл наведае Беларусь

Ён мае намер прыбыць у Мінск 13 кастрычніка для ўдзелу ў пасяджэнні Святога Сінода Рускай праваслаўнай царквы, паведаміў Sputnik у Беларускім экзархаце. Акрамя ўдзелу ў пасяджэнні Святога Сінода, патрыярх адразу пасля прылёту ў Мінск узначаліць службу ў Свята-Духавым кафедральным саборы, якая пачнецца ў 18.00.

14 кастрычніка патрыярх Кірыл у прыходзе ў гонар Усіх Святых у Мінску адслужыць чын Вялікага асвячэння храма-помніка ў гонар Усіх Святых, набажэнства пачнецца ў 9 раніцы.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

**ТРАГЕДЫЯ**

## Па-ранейшаму ў цяжкім стане

Учора стала вядома пра смерць адной з пацярпелых пры выбуху на ААТ "Магілёўдрэў", які адбыўся 25 верасня. Жанчына памерла раніцай 30 верасня.

Яшчэ двое пацярпелых, якія знаходзяцца ў Рэспубліканскім апёкавым цэнтры Бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі Мінска, па-ранейшаму ў цяжкім стане. Пра гэта БелаПАН паведаміў прэс-сакратар Міністэрства аховы здароўя **Юлія Барадун**.

Паводле яе слоў, два чалавекі, якія лячыліся ў Магілёве, выпісаліся дадому яшчэ на мінулым тыдні, у бальніцы заставалася адна жанчына.

Народная Воля http://www.nv-online.info
2 КАСТРЫЧНІКА 2018 г.

ФАКТ

## Мінімальны заробак 540 еўра

На жаль, не ў Беларусі. З наступнага года мінімальны заробак у Эстоніі вырасце з 500 да 540 еўра ў месяц – адпаведнай дамоўленасці дасягнулі Саюз працадаўцаў і Цэнтральны саюз прафсаюзаў. Праўда, пастанову яшчэ мусіць зацвердзіць урад, але, на думку аналітыкаў, так яно хутчэй і будзе.

Мінімальны заробак у Беларусі з 1 студзеня 2018 года складае 305 рублёў, што паводле сярэдняга курсу з пачатку года гэта 127 еўра.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## 9 гадоў калоніі за 207 тысяч еўра хабару

Учора ў Івацэвічах абвясцілі прысуд па абвінавачванні былога дырэктара папраўчай установы №5 у атрыманні хабару ў асабліва буйным памеры. Рашэнне суда – 9 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

Трэба адзначыць, што справа ў дачыненні да экс-дырэктара мужчынскай калоніі строгага рэжыму ў Івацэвічах разглядалася ў трэці раз. Папярэднія рашэнні адмяняліся прэзідыумамі Брэсцкага абласнога суда і Вярхоўнага суда. Цяперашні прысуд таксама не ўступіў у законную сілу і можа быць абскарджаны.

Што да акалічнасцяў справы, то, па версіі следства, з 17 сакавіка 2009 па 4 сакавіка 2013 года абвінавачаны, займаючы кіруючую пасаду на прадпрыемстве, атрымаў ад прадстаўніка французскай кампаніі 207 тысяч 365 еўра хабару. Па ўмовах здзелкі ён павінен быў забяспечыць заключэнне і выкананне дагавораў аб пастаўках за межы краіны мэблі, што выраблялася ў калоніі. Абвінавачаны быў адхілены ад пасады ў маі 2013 года, а звольнены – у ліпені 2015 года.

РЭГІСТРАТУРА

## Пачынаецца вакцынацыя ад грыпу

У Беларусі ў гэтым сезоне плануецца прышчапіць супраць грыпу амаль 3,7 млн чалавек, паведаміла журналістам намеснік начальніка аддзела гігіены, эпідэміялогіі і прафілактыкі Міністэрства аховы здароўя **Іна Карабан.**

За кошт бюджэту будуць прышчапляць вакцынай «Грыпол плюс» (Расія). На платнай аснове даступны «Інфлювак» (Нідэрланды) і «Ваксігрып» (Францыя). У бягучым годзе ў Беларусі ўпершыню зарэгістравана чатырохвалентная вакцына «Ваксігрып Тэтра» (Францыя), якая дадаткова змяшчае яшчэ адзін штам віруса тыпу B. На гэты момант яна даступна ў платных цэнтрах.

Як адзначыла Іна Карабан, вакцыны ў Беларусі ёсць у дастатковай колькасці. Усе яны зарэгістраваны і дазволены да выкарыстання на тэрыторыі краіны.

ДАРЭЧЫ

## Самая сучасная вакцына

*Што ўяўляе сабой Ваксігрып Тэтра?*

– Яна фарміруе імунітэт да двух штамаў віруса грыпу А (H1N1 і H3N2) і двух штамаў грыпу В (Вікторыя і Ямагата). Паводле ацэнак экспертаў СААЗ, гэта самая сучасная вакцына супраць грыпу, – удакладніла Іна Карабан.

Кошт прышчэпкі прэпаратам «Ваксігрып Тэтра» ў прыватных медцэнтрах каля 25 руб., трохвалентнымі вакцынамі «Ваксігрып» і «Інфлювак» – ад 15 да 20 рублёў.

ЖУРНАЛИСТСКОЕ РАССЛЕДОВАНИЕ

# Жизнь под откос

(Окончание. Начало на 1-й стр.)

*– Эта ветка проходила по территории военного полигона,* – дополняет полковник в отставке, в 1980-х годах – начальник противовоздушной обороны корпуса, дислоцировавшегося в военном городке «Уручье», бывший член садового товарищества «Озерище» **Николай Сенько**. – *Но она почти не использовалась, поезда по ней проходили редко. Хотя когда-то она действительно рассматривалась как объездная дорога для опасных грузов, но потом разработали специальные вагоны-цистерны, и эта ветка не понадобилась. Когда в 1990-е годы полигон был передан сельскому Совету, она, можно сказать, вообще стала заброшенной. Зная это, я и согласился в 2002 году построить в 10 метрах от перегона дачный домик.*



Старожил садового товарищества «Озерища» и его председатель в 1999–2008 годах **Василий Филиппович** вспоминает, что, когда в 1983 году создавался их дачный кооператив, разрешение участков согласовывалось с Борисовским отделением железной дороги – тогда ему принадлежала ветка, из-за которой сегодня спокойная жизнь сотен людей буквально идет под откос.

*– Тогда дачи выделяли ветеранам войны и труда, уважаемым на МТЗ людям*, – рассказывает Василий Васильевич. – *И, конечно, место подбирали спокойное, чтобы и с Минском рядом, и люди могли отдохнуть от городской суеты в тишине.*

*Более того, в 2002 году мне как председателю товарищества позвонили из Минского райисполкома. Был там тогда главный специалист землеустроительной службы по фамилии Хрищанович. Он попросил взять к нам в товарищество новых членов, «афганцев», и товариществу выделили дополнительный участок земли у самой железнодорожной ветки. БелЖД отказалась от этой земли, чтобы не платить налоги согласно принятому тогда в стране Закону о земле. Около наших дач железная дорога сузила полосу обеспечения безопасности с 41 до 5 метров. Думаю, так произошло именно потому, что эта ветка никогда не была хозяйственной дорогой. Сколько существуют наши дачи, с 1983 года, – по ней никогда не ходили грузовые поезда. Мог раз или два в неделю пройти один вагон с маленьким тепловозом. И все.*

Жители поселка Большое Стиклево также в конце 1990-х – начале 2000-х получали земли в 20, 30, 50 метрах от данной железнодорожной ветки, и теперь от их коттеджей до грохочущих составов рукой подать в прямом смысле. **Римма Гузелевич** рассказывает:

*– Новодворский сельский Совет начал тут выделять земли под застройку с 1994 года. Так, в Большом Стиклево выросла целая улица Зеленая, большинство коттеджей на ней расположены на расстоянии менее 50 метров от «железки». Причем когда брались разрешения на строительство домов, то никаких ограничений не было, кроме одного – запрещали строиться в зоне водоснабжения, скважины. Получается, сельский Совет выделял людям землю, комитет архитектуры Минского райисполкома согласовывал строения, причем никаких мероприятий по вибро- и шумоизоляции от нас не требовали. А сейчас у нас под носом пустили грузовые поезда, и мы оказались абсолютно незащищенными.*

### Ремонт, а не реконструкция

Одновременно с тем, как семья Жанны Корунос отстроила свой дом, в Уютном поползли слухи, что заброшенную железнодорожную ветку реанимируют и по ней пустят электрички к Национальному аэропорту. Позже стали говорить, что электрички свяжут Колодищи и Михановичи.

*– В 2012 году на ветке появились строители,* – рассказывает Жанна Корунос. – *Корявые деревянные шпалы они заменили на бетонные, сделали подсыпку, но рельсы оставили старые. Мы спрашивали у рабочих, для чего они это делают. Сказали, что потом заменят и рельсы на бесстыковые и пустят тихоходные бесшумные электрички «Штадлер». Такая же информация появилась и в СМИ. Мы успокоились, более того, отнеслись к этому позитивно, поскольку транспортная проблема у нас существовала уже тогда.*

И тут – как гром среди ясного неба! Планы БелЖД резко изменились: в 2018 году по ж/д перегону Колодищи–Шабаны было организовано, как сообщалось, транзитное движение грузовых поездов в обход Минска. Хотя почему, например, Шабаны вдруг стали не Минском?! А главное, какие мероприятия по уменьшению шума и вибрации были сделаны перед тем, как по дороге пустили многотонные поезда, зная, что они будут проходить мимо жилой зоны? Хотя справедливости ради стоит отметить, что после обращений жителей Большого Стиклево в БелЖД на участке дороги, который проходит рядом с их поселком, заменили старые рельсы на бесстыковые.

*– Но эту проблему шума все равно не решило,* – говорит Римма **Гузелевич**. – *Спать по ночам под этот грохот по-прежнему невозможно. А людям утром на работу, детям – в школу.*

*– Самое возмутительное в этой ситуации то, что все работы, которые БелЖД проводила на этом участке дороги, проходили под видом текущего восстановительного ремонта. Они нам так и пишут в официальных ответах: текущий ремонт, а не реконструкция,* – говорит житель Уютного **Владимир Терещенко**. – *А когда идет текущий ремонт, то работы не надо ни с кем согласовывать: ни с исполкомом, ни с Минприроды, ни с санитарными службами. В итоге они тихонько электрифицировали эту дорогу и по старым, ржавым, 1984 года выпуска рельсам, в стык которых входит пачка сигарет (!), запустили товарные поезда. Сейчас здесь идут длиннющие составы с цистернами с бензином, сжиженным газом, калийными солями и другими опасными грузами.*

Разве это допустимо? Почему старые, деформированные, короткие рельсы не заменили на современные бесстыковые? Почему не укладывалась антивибрационная подушка, а ограничились только минимальной подсыпкой под шпалы? Эти и другие вопросы жители Уютного и Большого Стиклево направили железнодорожникам. Отвечали им и заместитель начальника Белорусской железной дороги **С.Ф.Сизин**, и главный инженер **В.Н.Шубадеров**, и чиновники рангом ниже.

В официальном ответе Андрею Саликову сказано: *«Для организации грузового движения при проведении восстановительного ремонта в 2012–2013 гг. на перегоне Колодищи–Шабаны уложены рельсы типа Р-65, промежуточное скрепление СБ, укладка рельсо-шпальной решетки произведена на щебеночный балласт. Земляное полотно и верхнее строение пути соответствуют требованиям действующей нормативно-технической документации».*

*– Неужели в XXI веке в нашей стране такие нормативы, что опасные тяжелые грузы допускается перевозить по ржавым рельсам, которые буквально испещрены сколами, на некоторых участках из-за ржавчины куски рельсов просто отвалились!* – возмущается Владимир Терещенко. И для убедительности вместе с другими жителями проводит для меня экскурсию по «железке».

*– Обратите внимание на деревья,* – кивает Владимир в сторону леса. – *Поскольку ремонт БелЖД ни с кем не согласовывали, прилегающий к ж/д ветке лес не проредили, а некоторые сосны растут просто в миллиметрах от линии электропередач. А там напряжение 27,5 кВ, пожароопасная ситуация. И уже дважды деревья падали на контактные сети, происходило возгорание. Один раз пожар был настолько небезопасный, что эвакуировали людей с ближайшей АЗС «Белоруснефть».*

*– Прежде чем пускать поезда, БелЖД делала какие-либо замеры?* – эмоции переполняют Жанну Корунос. – *Если раньше нас очень беспокоил шум, то сейчас – еще и вибрация. Когда проходит поезд, мы находимся в зоне землетрясения силой 2–3 балла! Нам просто страшно. Мы строились не в сейсмической зоне. Мне, например, уже пришлось переделать канализацию, потому что треснула труба. В соседнем доме треснула стена, где проходит газовая труба.*

*– Мы перестали спать по ночам,* – в один голос говорят люди. – *Поезда ходят в 11 вечера, потом в 12 часов ночи, в 2, в 3 часа, могут пройти в 5 или 6 утра. С каждым месяцем их становится все больше, причем ночью идут наиболее длинные и тяжелые составы. Грохот стоит адский. К тому же они еще гудят – здесь рядом железнодорожный переезд. Это нарушение всех норм. Если ночью ваш сосед будет работать дрелью, вы вызовете милицию, и ему объяснят, что его действия противозаконны. А как нам спастись от тех, кто нарушает правила проживания в жилых зонах?*

Свои аргументы жители Уютного подкрепляют документами. Дважды они вызывали представителей санитарных служб. Замеры уровня шума и вибрации работники Минского зонального центра гигиены и эпидемиологии проводили и в дневное, и в ночное время в домах «первой линии» от железной дороги и в тех, которые расположены на расстоянии более 100 метров. Было зафиксировано превышение норматива вибрации в три (!) раза и шума в два (!) раза. Недавно замеры шума в домах делал независимый эксперт из ООО "Судебно-экспертная коллегия". Результаты показали превышение нормы в дневное время на 6, в ночное – на 16 децибел!

Кто это должен устранять?!

### Государство в государстве?

Белорусская железная дорога на абсолютно справедливые замечания людей реагирует сдержанно и твердо, на какие-либо компромиссы идти не соглашается. В официальных письмах представители БелЖД отвечают, что *«объект под названием «Верхнее строение главного пути Колодищи–Михановичи» был принят к бухгалтерскому учету 1 января 1964 года. Жилые дома рядом с этой веткой были введены гораздо позже. При этом мероприятия по снижению шума и вибрации, которые позволили бы сократить расстояние от железной дороги со 100 до 50 метров, при проектировании и строительстве жилых домов предусмотрены не были. Следовательно, застройщиками еще на стадии проектирования были нарушены требования»* застройки.

Застройщик – это местная власть, Минский райисполком. Там в свою очередь заявляют, что Колодищанский сельский Совет выделил эти земли под застройку раньше, чем железная дорога предъявила на них права, что это земли для эксплуатации и обслуживания полосы отвода железной дороги. И, следовательно, по мнению Минского райисполкома, *«на стадии разработки проекта реконструкции ветки Колодищи–Шабаны должны были быть предусмотрены мероприятия по защите от вибрации и шума, создаваемого железнодорожным транспортом, находящимся вблизи жилой застройки».*

Андрей Саликов показывает выписки из единого госрегистра недвижимого имущества, из которых следует, что вновь созданный объект железной дороги Колодищи–Шабаны под инвентарным номером 0/С-7 с кадастровым номером 623600000000001000239 зарегистрирован только 17 марта 2010 года, до этого в правовом поле Республики Беларусь данного объекта не существовало. Дома же рядом с этой веткой возникли еще в 1980–1990-х годах и продолжали строиться в 2000-х.

*– Получается, интересы БелЖД пересекаются с интересами Минского райисполкома, исполнительной власти,* – резюмирует Владимир Терещенко. – *И железная дорога валит на него: мол, выделил вам земли исполком, пусть и проводит мероприятия по снижению воздействия физических факторов – шума и вибрации. Но при чем здесь исполком? Шум и вибрацию создает железная дорога! Вообще, каким образом военная рокадная дорога без единого согласования стала полноценной гражданской железной дорогой для грузовых поездов? Или у нас в стране БелЖД на особом положении? Государство в государстве? Что хочу, то и ворочу?! Но ведь для них это не такое затратное финансовое мероприятие – снизить скорость поездов, убрать ночные передвижения составов, сделать бесшовный путь и установить шумозащитные экраны. Сделали хотя бы это, и наша жизнь была бы другой.*

*10 мая мы были на приеме у руководителя Минского отделения БелЖД **Павла Дашкевича**. Он сидел, как воды в рот набравши. Никаких конкретных ответов мы не получили.*

Зато 25 мая жителям Уютного пришел официальный ответ от главного инженера отделения железной дороги **А.С.Шилова**, в котором утверждается, что *«нет оснований для выполнения шумозащитных мероприятий за счет УП «Минское отделение Белорусской железной дороги».* Просьба жителей хотя бы отменить ночные поезда, чтобы люди могли элементарно спать, также проигнорирована. *«Режим работы железнодорожного транспорта является круглосуточным, и ограничение движения на участке Колодищи–Шабаны в период с 22.00 до 8.00 не представляется возможным»,* – такой ответ дает заместитель начальника Белорусской железной дороги С.Ф.Сизин.

*– Мы в отчаянии!* – говорят жители Уютного, Большого Стиклево, садового товарищества «Озерище». – *Нашу жизнь просто переехала железная дорога. Есть нарушения, и никто их не исправляет! Что это, если не наплевательское отношение к людям, гражданам своей страны?!*

*Услышьте нас! Мы имеем право жить хотя бы по тем санитарным нормам, которые приняты в нашем государстве!*

ОФИЦИАЛЬНО

## Депутаты надеются, чиновники непреклонны…

Поселок Уютный и садовое товарищество «Озерище» находятся на территории Колодищанского сельского Совета, и стоит отметить, что местные депутаты встали на защиту интересов людей. Председатель сельсовета **Олег Захарчиц** надеется, что в скором будущем эта ситуация сдвинется с мертвой точки.

*– 14 сентября в Минском областном комитете по архитектуре состоялось заседание с участием представителей Белорусской железной дороги,* – прокомментировал ситуацию Олег Олегович. – *Там поднимались вопросы о данных нарушениях. Железнодорожники пояснили, что со стороны Шабанов уже уложено 4,2 километра бесстыковых рельсов, укладка которых продолжится в 2019 году. Также на встрече говорилось о возможной целесообразности закрытия ж/д переездов. До 1 декабря этого года Минскому райисполкому и сельскому Совету надо рассмотреть возможность выполнения предпроектных мероприятий по снижению шума и вибрации.*

Обратилась «Народная Воля» за комментарием и в Белорусскую железную дорогу. Ответ был дан только в письменной форме, и, если честно, он не только удивил, но и разочаровал. Позиция БелЖД остается неизменной: товарные составы будут ходить по данной железнодорожной ветке! Складывается впечатление, что нашим чиновникам очень удобно прикрываться государственными интересами, когда речь заходит о том, что, возможно, в ведомстве при принятии решений могли ошибиться, не учесть всех нюансов и в итоге пострадали люди – граждане страны. Вот ответ **Александра Анатольевича Хорошевича**, заместителя начальника УП «Минское отделение Белорусской железной дороги»:

*«В настоящее время участок железнодорожной линии на перегоне Шабаны–Колодищи находится в технически исправном состоянии и под постоянным контролем специалистов Белорусской железной дороги и соответствует требованиям нормативно-технической документации, предъявляемым к эксплуатации железнодорожных линий в Республике Беларусь.*

*На перегоне Шабаны–Колодищи ведутся работы по укладке плетей бесстыкового пути.*

*Железнодорожный путь Колодищи–Шабаны предназначен для пропуска грузовых поездов в обход города Минска. Прекратить движение в ночное время не представляется возможным, так как грузоперевозки осуществляются круглосуточно, обеспечивая бесперебойную работу предприятий Республики Беларусь».*

Аргументация, мягко говоря, странная: как же обеспечивалась *«бесперебойная работа предприятий Республики Беларусь»* на протяжении чуть ли не полувека, в течение которых железнодорожная ветка не действовала?

Любопытно: если бы представители БелЖД, их дети или родители оказались в ситуации жителей Уютного, Большого Стиклево, садового товарищества «Озерище», их успокоили бы объяснения, что ржавые рельсы – это норма, что шум и вибрация, идущая от товарных составов, их проблема и т.д.?!

***

Очевидно, что ожившая железнодорожная ветка стала проблемой не только для жителей, но и для местной власти и для Белорусской железной дороги, которую жители населенных пунктов забрасывают письмами.

«Мы будем бороться до конца!» – заявляют, например, жители Уютного. И предлагают БелЖД свои – вполне логичные – варианты решения сложившейся ситуации. Например, пустить по электрифицированной ж/д ветке Колодищи–Шабаны тихоходную современную электричку, которая позволит жителям Колодищей, Большого Стиклево, Большого Тростенца и Шабанов быстро добираться до станции метро «Могилевская». Тем более что в планах у столичных властей уже в 2019 году в непосредственной близости от этой ж/д ветки начать возведение жилых микрорайонов «Ноттингем» и «Зеленый Бор». Если Минск вплотную приближается к железнодорожной ветке, то насколько логично ее восстанавливать, начинать мероприятия по вибро- и шумоизоляции? Может, с экономической точки зрения целесообразнее грузовые составы, которые уже сегодня мешают людям спокойно жить, действительно пустить в обход Минска, например, через индустриальный парк «Великий Камень»? Но согласится ли на такой компромисс Белорусская железная дорога? Готовы ли там думать на перспективу, чтобы не допустить в будущем аналогичных ситуаций? Ведь Минск растет, и люди не хотят жить, трясясь от вибрации под грохот товарных поездов.

Возможно, в ситуацию должны вмешаться госорганы, в подчинении которых находится БелЖД. В конце концов, согласно Конституции, государство должно обеспечить своим гражданам право на достойный уровень жизни, право на отдых, право на благоприятную окружающую среду и на возмещение вреда, причиненного нарушением этого права.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Каб не было бяды, калісьці дзяцей выхоўвалі ў калысцы

У Нараўлянскім раёне суд пазбавіў права на стыпендыю трох навучэнцаў прафесійнага ліцэя, бо яны яе прапівалі.

Яны амаль што смаркачы,
Дамоў прыносяць “двойкі”,
І тым не менш ужо, лічы,
Прапашчыя апойкі.
Усё, што маюць, – на прапой,
Іх “альма матэр” – крама.
Стыпендыя, само сабой,
Спускаецца таксама.
На даляглядзе ў іх капут,
Закончацца дарогі.
І падалі заяву ў суд
З адчаю педагогі.
Суддзя адобрыў іх намер,
Таму прыняў рашэнне:
Не пакладуць хлапцы цяпер
Стыпендыі ў кішэні.
Дарослыя, мяркуюць так,
Зрабілі чэсць па чэсці:
Не будзе пойла ў выпівак!
(А ці падумалі, аднак,
Што трэба ім і есці?)
Здаецца мне, што пра дзяцей
І з горада, і з вёскі
Патрэбна думаць нам раней –
Яшчэ як смокчуць соскі.
Таму, бадай, сышоў цягнік –
Звярнулі позна ўвагу.
Калі зрабіць захочуць глык
І ні рубля ў кішэнях, дык
Яны спатоляць смагу,
Закласці змогуць за каўнер,
Бо нарыхтуюць бражкі
Або намерацца цяпер
Штодня хадзіць у блізкі сквер,
Збіраць пустыя пляшкі.

* * *

Як вынесці прысуд такі
Тым, хто штодня паддаты,
У нашых вёсках мужыкі
Хадзіцьмуць без зарплаты…

## Рука, а не лапата зваліла супастата

Злодзей з Віцебска ў міліцыі паскардзіўся на гаспадара дома, у які ён залез: “Ударыў мяне лапатай, і я страціў прытомнасць…” На самай справе 73-гадовы дзядуля вутнуў злодзея левай рукой. Гаспадар усё жыццё цягаў рычагі гусенічнага трактара…

Разлічваў злодзей на спагаду.
– Я атрымаў шалёсткі ўдар:
Па галаве, пры гэтым ззаду,
Лапатай вутнуў гаспадар, –
У райаддзеле капітану
Казаў ён з роспачу ўваччу. –
Здавалася (хлусіць не стану),
Што ў апраметную лячу.
Хоць красці, мусібыць, ганебна,
Хоць я, канешне, не анёл,
Ды на гаспадара патрэбна
Таксама скласці пратакол.
Няхай бандыт ідзе за краты
І там хоць месяц пажыве:
Не для таго ж у нас лапаты,
Каб біць людзей па галаве…
Зламысніку ўсміхнуўся скупа
І едка мовіў капітан:
– Падзякуй, што дзядуля кумпал
Не раскалоў, як той цурбан.
Няблага, каб сваё “лапаты”
У ход пускалі ўсе дзяды…
А хто ж ён,
Дзед той зухаваты?
Ці біў лапатай сапраўды?
На трактары, што спрэс з металу,
Адпрацаваў свае стары.
І мускулы ўзрасціў памалу:
Яны ў старога – як бугры!
Міжволі зробішся атлетам,
Як пацягаеш рычагі.
(Адзначыць варта, што пры гэтым
Меў і разумныя мазгі.)
Папрацаваў як след – і годзе.
Век дажываў спакойна ён.
І тут у дом забраўся злодзей –
Лічыў, што ў дзеда ёсць мільён.
Перавярнуў у межах дома
Усё нагамі дагары.
Ён штосьці знайшоў, вядома…
Але, як здань, паўстаў стары.
Само сабою, дзед ад злосці
Міжволі сціснуў кулакі.
Агрэў няпрошанага госця –
І толькі з левае рукі.
Адразу злодзей лёг пад лавай,
Зваліўся, бедны, з капытоў.
(А каб жа дзед ударыў з правай,
Скапыціўся б і пагатоў.)
А ці парушыў дзед законы?
Ён не адправіцца ў турму.
Здаецца мне, што пінкертоны
Адваляць прэмію яму.

* * *

Не маю я рукі-лапаты…
Каб злодзей уначы ці днём
Залез і штосьці выносіў з хаты,
Агрэў бы злыдня абухом.

ХАЧУ СКАЗАЦЬ…

# Падпалкоўнік у ролі… паштальёна

Нядаўна я запісаўся на прыём да аднаго чыноўніка Мінскага гарвыканкама. На ўваходзе ў будынак, што на плошчы Незалежнасці, заўважыў мужчыну ў ваеннай форме. Звярнуў увагу на яго пагоны – дзве вялікія зоркі:падпалкоўнік. У руках – скураная торба, падобная на партфель.

У фае наведвальнікі паказваюць пашпарты, называюць, да каго ідуць, іх прозвішчы заносяцца ў спецыяльную кнігу, але службовец без затрымкі шмыгануў міма дзяжурнага. На сваё пытанне “Хто такі?” я пачуў адказ: “Фельд’егер урадавай службы сувязі”.

Аказваецца, чалавек у званні падпалкоўніка развозіць дэпешы па чыноўніцкіх установах. А што, гэта нельга даручыць цывільнай асобе? І не плаціць як кадраваму ваеннаму са складу вышэйшых афіцэраў, а ў два-тры разы менш? Скажаце, адказная работа? Дык што, у нас мала адказных людзей сярод грамадзянскага асяроддзя? У крайнім выпадку, я ўпэўнены, гэтая функцыя па плячы любому прапаршчыку. Але ж не падпалкоўніку развозіць пісьмы па горадзе!

Што ні кажыце, а трэба наводзіць парадак у расходаванні дзяржаўных грошай, а дакладней – грошай падаткаплацельшчыкаў. Колькі ў нас людзей з высокімі званнямі займаюцца некваліфікаванай працай! Глядзіш: там, дзе можа справіцца ўчарашняя школьніца, сядзіць дама ў міліцэйскай форме, якой трэба плаціць і за зорачкі, і за выслугу гадоў, і за многе іншае…

**Сяргей БАСІН,**
**падаткаплацельшчык.**

ПРИНЦИПИАЛЬНО!

# Как вас понимать, господин Бабич?



Прочитал, что новый посол России в Беларуси Михаил Бабич совершил свою первую официальную поездку после назначения – посетил нефтехимические предприятия Могилева. Особое внимание я обратил на такую фразу: *«Михаил Бабич обозначил, что собирается развивать сотрудничество России и Беларуси в формате Союзного государства – «чтобы объединение не было неким виртуальным проектом, а приносило пользу гражданам двух стран»*. Заметьте, он четко произнес слово **«объединение»**, хотя мог бы сказать – **«интеграция»**.

Как Вас понимать, господин Бабич? Какую установку Вы получили в Кремле при назначении послом в Беларуси? Интеграция – это одно, а объединение – совсем другое. Достаточно долгое время мы находились в «тесных объятиях» с Россией. Не хотим мы никакого объединения ни с кем. Давайте цивилизованно сотрудничать по всем направлениям и дружить по-соседски, не считая, что кто-то «старший брат», а кто-то «младший».

**Федор КОЗЛОВСКИЙ,**
**белорус.**

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

# Наказ новому составу правительства: верните людям их сбережения!

Сколько писано-переписано о том, что государство должно вернуть людям те деньги, которые они держали когда-то в банках и которых в одночасье лишились! В ряде республик, входивших вместе с Беларусью в Советский Союз, эта проблема давным-давно решена. А у нас… Были обещания, но до сих пор ничего путного не сделано.

Мой наказ новому составу правительства: верните людям их сбережения. Деньги были заработаны ими потом и кровью, государство на каждом шагу призывало хранить финансы не в чулках, а в банках. Народ верил каждому слову той власти и нес деньги в сберегательные кассы, позже отдавал их в руки небезызвестного Мавроди. Но вот парадокс: и родное государство, и проходимец Мавроди «кинули» многих-многих граждан.

Удастся ли новому составу белорусского правительства победить коррупцию – я не знаю. Но вот вернуть людям их деньги – это его первейшая обязанность. Премьер Сергей Румас – опытнейший финансист, и кому, как не ему, разрешить давно наболевшую проблему.

**Василий**
**БОЛДЫШЕВ,**
**пенсионер.**

*Минск.*




РАКУРС

## Праўда – пасярэдзіне

Калі слухаць афіцыйных прапагандыстаў, то жывём мы ў самай лепшай краіне – і дабрабыт людзей высокі, і спакойна на душы ад таго, што нішто не перашкаджае мірнай працы.

А вось зойдзеш на некаторыя радыкальныя сайты – і жыць не хочацца: усё ў нас дрэнна – поўны калапс на заводах і фабрыках, вёскі выміраюць, моладзь з’язджае… Адным словам, Беларусь чакае трагічны лёс.

Я не веру ні адным, ні другім. Не сляпы і не глухі, уважліва назіраю за ўсім, што адбываецца вакол, і магу сказаць: не райскае жыццё ў нас, але і не бядотнае. Выйдзіце на вуліцы (не толькі сталічныя), паглядзіце, якая запружанасць машынамі – яшчэ 20–30 гадоў аб гэтым можна было толькі марыць. Рэдка ўбачыш чалавека ў абы якой вопратцы, ці ж хадзілі мы некалі ў такіх касцюмах? Радавацца трэба і таму, што мяняецца архітэктурнае аблічча як вялікіх гарадоў, так і раённых цэнтраў. Ды і цэнтральныя сядзібы сельскіх гаспадарак выбудоўваюцца на новы лад.

Вядома ж, праблем, нявырашаных пытанняў хапае. Але ж назавіце краіну, дзе б іх не было! Таму я прапускаю міма вушэй як гучныя выступленні афіцыйных прапагандыстаў, так і іх апанентаў, тых, хто з нагоды і без нагоды чыхвосціць улады. Праўда – пасярэдзіне, і не трэба толькі пляскаць у далоні, як і ўяўляць усё наша жыццё ў чорных фарбах.

**Марат ВОЛЬСКІ, былы педагог.**

*Гомель.*

ДЫСКУСІЯ

## Новае – забытае старое

У сваім допісе ў газету чытач Віктар Талочка задаецца пытаннем: “Навошта прапаноўваць нейкія новыя словы – “спадар”?” Згодны, што слова новае, але толькі ў тым сэнсе, што новае – даўно забытае старое.

Вось чытаем у слоўніку В.Ластоўскага: “У грамадскім жыцці XVI веку сустракаем яшчэ слова ***спОдар*** (падобна як з рас. *“государь”* атрымалася скарочанае *”сударь”)*, але гэта слова было выціснута новым у тыя часы **пан**, што прыйшло да нас праз Польшчу”.

Прыгадаю выпадак не такой далёкай гісторыі, калі па Беларускім тэлебачанні гаварылі: “Вітаем шаноўнае спадарства!” Працягвалася гэта вельмі мала часу і ўжо забылася.

Памятаю, тады спрачаліся наконт падобнага звароту, і адна жанчына сталага ўзросту абуралася: “Дык што, цяпер мяне будуць называць спадыняй?!”. Звярніцу ўвагу: не спадарыняй, а спадыняй (параўнайце “га-спадыня”). Мабыць, у некаторых мясцовасцях быў і такі зварот.

Лічу, што ўжыванне слоў “спадар”, “спадарыч”, “спадарыня”, “спадарычна”, “шаноўнае спадарства” былі б адметнай рысай беларусаў. Навошта пераймаць чужое, калі ёсць добрае сваё?

**Алмік ЧМЫХВЕРГ.**

*г.Бабруйск.*

ВАС ЦІКАВІЦЬ…

# Што чуваць па справе Коржыча?

*“Народная Воля” даўно нічога не пісала пра судовы працэс па справе загінуўшага салдата Аляксандра Коржыча. Можа, я нешта прапусціў, таму прашу газету адказаць: ці скончыліся судовыя разбіральніцтвы, ці вынесены прысуд па гэтай справе?*

**Сяргей НІКІФАРАЎ,**
**Віцебск.**



Вы нічога не прапусцілі, справа радавога Аляксандра Коржыча ўсё яшчэ знаходзіцца на разглядзе ў Мінскім абласным судзе. У працэсе абвешчаны перапынак да 8 кастрычніка. За гэты час Следчы камітэт паспрабуе ўстанавіць, ці выбіваліся паказанні з абвінавачаных, бо трое сяржантаў **Антон Вяжэвіч, Ягор Скуратовіч і Яўген Бараноўскі**, якія абвінавачваюцца ў давядзенні да самагубства Аляксандра Коржыча, заявілі пра тое, што патрэбныя паказанні супрацоўнікі КДБ выбівалі з іх сілай.

Усяго па справе Коржыча пацярпелымі прызнаны аж 58 чалавек, у іх ліку – маці Аляксандра. Астатнія – салдаты тэрміновай службы, якія, паводле версіі абвінавачання, сталі ахвярамі дзедаўшчыны ў беларускім войску.

3 кастрычніка спаўняецца роўна год, як цела Аляксандра Коржыча было знойдзена ў адным з памяшканняў вайсковай часці пад Барысавам. За час, пакуль доўжыцца суд, грамадскасць даведалася пра шакіруючыя факты ў сучасным беларускім войску: тут і фізічныя пакаранні салдат у выглядзе ўдараў ці адцісканняў у процігазе, а таксама канфіскацыя прадуктаў харчавання за дазвол схадзіць у краму.

Паводле версіі абвінавачання, Аляксандр Коржыч скончыў жыццё самагубствам. Маці загінуўшага салдата і некаторыя яго саслужыўцы ў судзе заявілі, што падстаў добраахвотна зводзіць рахункі з жыццём у Аляксандра не было.

Справа набліжаецца да развязкі і знаходзіцца на асабістым кантролі Аляксандра Лукашэнкі.

Тым часам учора, 1 кастрычніка, у Мінскім абласным судзе распачаўся разгляд яшчэ адной справы аб дзедаўшчыне ў войску. На лаве падсудных – прапаршчык **Артур Вірбал** і камандзір роты 72-га вучэбнага цэнтра ў Печах **Павел Сукавенка**. Яны былі затрыманы яшчэ восенню мінулага года ў межах справы Аляксандра Коржыча. Аднак пазней іх справа была вылучана ў асобную вытворчасць.

Былых вайскоўцаў абвінавачваюць па частках 1 і 2 артыкула 455 Крымінальнага кодэкса Беларусі (“Злоўжыванне ўладай”). Пацярпелымі па гэтай справе з’яўляюцца сямёра салдат, трое з якіх абвінавачаны па справе Коржыча.

Артура Вірбала абвінавачваюць у тым, што ён, жадаючы паказаць сваю перавагу, прымушаў падначаленых адціскацца ў казарме і наносіў ім удары драўлянай палкай і нагамі. А Павел Сукавенка абвінавачваецца ў тым, што з асабістай карыслівай зацікаўленасці патрабаваў і завалодваў прадуктамі і цыгарэтамі, якія належалі падначаленым. Акрамя таго, паводле версіі абвінавачання, ён завалодаў агульнай сумай у памеры 200 рублёў. Гэтыя грошы таксама належалі салдатам-падначаленым.

Таксама следствам устаноўлена, што Сукавенка патрабаваў ад падначаленых купляць яму прадукты: 20 разоў – сасіску ў цесце і не менш за 100 разоў – пакецікі кавы.

Артур Вірбал прызнаў абвінавачанне цалкам, а Павел Сукавенка – часткова, адмаўляючы, што збіваў падначаленых “драўляным прадметам”.

У гэтым працэсе распачалі дапытваць пацярпелых.

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО

На пытанні чытачоў адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА «Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў» Васіль ВАЛАСЮК.

## Дрыль з дэфектам

*Пасля двухмесячнага рамонту ў сэрвісным цэнтры майго дрыля ён ізноў пачаў дрэнна працаваць, а затым і наогул зламаўся. Што я магу прад’явіць сэрвіснаму цэнтру?*

**Васіль ЗАЛЕСКІ, Мінск.**

– Толькі прэтэнзію на няякасны рамонт. Патрабуйце, каб аднавілі працаздольнасць дрыля.

## Купілі няспраўную цацку

*Радыёкіруемы верталёт, які набылі на рынку, дома ў літаральным сэнсе загарэўся ў паветры. Прынёс на рынак назад, мне сказалі, што такога быць не можа, каб цацка загарэлася… І, натуральна, адмовіліся вяртаць грошы і забіраць сваю “цудтэхніку”. Што зараз рабіць?*

**Віталь ПАТУПЧЫК, г.Маладзечна.**

– Звярніцеся да экспертаў, яны ўстановяць, чаму загарэўся ваш верталёт. А пасля заключэння ўжо зноў звяртайцеся да таго, хто вам прадаў цацку.

## У тэлефоне не працуе зараднае прыстасаванне

*Набыла тэлефон паўгода таму, зараз не працуе зараднае прыстасаванне. Пайшла аддаць у рамонт па гарантыі, а мне сказалі, што тэлефон не возьмуць. Маўляў, за зараднае прыстасаванне ў апараце яны не адказваюць. Ці так гэта?*

**Святлана КОРЗУН, Мінск.**

– Не. Зарадная прылада ўваходзіць у камплект тэлефона, а значыць, на яе распаўсюджваецца гарантыя.

